ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 81(5263)
Субота,
21 ліпеня
2001 года

Кошт у розніцу — 51 руб.

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## Не пагарджаць мастацкім словам

***Шмат гадоў мне даводзілася (і цяпер даводзіцца) працаваць у агульнаадукацыйных школах, тэхнікумах і ВНУ. Гэта дае мне права падзяліцца з педагогамі сваім вопытам, паразважаць пра некаторыя нявырашаныя пытанні адукацыі і выхавання нашай моладзі.***

З чаго складаецца культура народа? На думку Эдуарда Скобелева, "культура народа складаецца з культуры думкі, культуры памяці, культуры пачуцця, культуры працы, культуры выхавання, культуры адпачынку і культуры звычаю. Толькі паўнацэннае спалучэнне гэтых культур дае квітнеючы і шчаслівы народ" (Скобелев Э. Кто мыслит — раздвигает простор своей судьбы. — Беларуская думка, 2001, № 3. С. 96.) Карысная думка, асабліва для нас, педагогаў.

Культура думкі вызначаецца якасным станам мыслення як псіхалагічнага працэсу з адкрыццём новых ведаў. Пры гэтым ажыццяўляецца вырашэнне тых або іншых праблем на аснове перапрацоўкі інфармацыі. Культура думкі звязана з усімі відамі мыслення: тэарэтычным, паняційным (абстрактным), вобразна-тэарэтычным, наглядна-дзейсным, наглядна-вобразным.

На занятках у сярэдняй і вышэйшай школах педагогам неабходна ўмела, гарманічна спалучаць думку і пачуццё. Гарманічнае спалучэнне рацыянальнага і эмацыянальнага сродкаў узмацняе ўздзеянне на вучняў, павышае якасць заняткаў, іх выніковасць.

Кожнаму педагогу вельмі важна авалодваць дыялектычным мысленнем. Дыялектыка разглядае мысленне і пазнанне ў станаўленні і развіцці. Цэнтральнай у дыялектыцы з'яўляецца думка аб адзінстве і барацьбе процілегласцяў, аб супярэчлівасці ўсяго існага.

У педагагічным асяроддзі не заўсёды ўсведамляецца эмацыянальная значнасць вуснага слова, важнасць чытання мастацкай літаратуры. Я дагэтуль помню свой урок (працаваў тады ў 5 класе сямігадовай школы), на якім я вырашыў паказаць вучням мастацтва вуснага слова на прыкладзе чытання твора "Муму". Доўга рыхтаваўся да гэтага ўрока. Чытаў гутаркі майстроў мастацкага слова, такіх, напрыклад, як Д.Жураўлёў, І.Ільінскі, У.Яхантаў, Я.Смаленскі, М.Цароў і іншых. Многіх з іх мне давялося ў свой час бачыць і чуць у тэатры і на эстрадзе.

Гэты ўрок (гавару не хвалячыся) узрушыў вучняў 5 класа. Яны суперажывалі падзеям, адлюстраваным у творы І.Тургенева. У многіх з'явіліся слёзы...

Вопыт выступленняў з лекцыямі для педагогаў у Гомельскім абласным ІПК паказаў, што змест лекцыі і яе форма выступаюць у адзінстве, узаемасувязі. Змест лекцыі становіцца найбольш зразумелым, даступным для слухачоў, калі ён выліваецца ў яркую гукамаўленчую форму. Форма пры гэтым павінна быць дастаткова актыўная. Патрэбна ўлічваць гукавую, лагічную і эмацыянальную выразнасць маўлення. Вялікае значэнне мае тэхніка маўлення, звязаная з дыханнем, голасаўтварэннем, дыкцыяй.

У лекцыях (асабліва па эстэтыцы) патрэбна выкарыстоўваць мастацкія сродкі, у прыватнасці мастацкае слова. Але пры гэтым трэба ўсведамляць, што мастацкае чытанне з'яўляецца складаным відам мастацтва.

Мне хочацца прывесці тыя мастацкія творы, якія выкарыстоўваюцца ў лекцыях па маральным, эстэтычным, патрыятычным і гуманістычным выхаванні. Любоў да Бацькаўшчыны знайшла сваё адлюстраванне ў творчасці вялікага беларускага паэта Максіма Танка. Чытаю:

За песні і сасонкі,
Узгоркі і даліны —
Люблю цябе я звонка,
Люблю цябе, краіна!
За вецер поўны шумны
Над хатай-сірацінай —
Люблю цябе я сумна,
Люблю цябе, краіна!
Што ўстанеш ты ахвярна,
Хоць скутая — не згінеш! —
Люблю цябе бунтарна,
Люблю цябе, краіна! (1936 г.)

Верш цёпла ўспрымаецца слухачамі.

Выкарыстоўваюцца і творы М.Ю.Лермантава, А.С.Пушкіна ("К Чаадаеву", "Если жизнь тебя обманет..." і іншыя, а таксама фрагменты рамана ў вершах "Яўгеній Анегін"), С.А.Ясеніна, У.У.Маякоўскага і іншых паэтаў. Вельмі добра слухачамі ўспрымаецца "Гармонік" (з паэмы А.Т.Твардоўскага "Васілій Цёркін"). Чытанне мастацкіх твораў ажыўляе лекцыю, уздзейнічаючы на эмоцыі слухачоў. (Канешне, тут нельга дапускаць і перахлёстаў.)

Калі я расказваю пра музыку як від мастацтва, выкарыстоўваю некаторыя прыклады з музычных твораў, паказваючы іх прыгажосць, рытмічны строй. Калі ёсць магчымасць, можна паказаць які-небудзь твор. Патрэбна пераадольваць шаблоны, смялей выкарыстоўваць усе сродкі, якія садзейнічаюць духоўнаму развіццю вучняў.

У канчатковым выніку поспех лекцыі вызначаецца ідэйнай перакананасцю лектара, ступенню яго валодання навуковым, дыялектыка-матэрыялістычным светапоглядам, веданнем асноўных напрамкаў выхаваўчай работы і ўменнем практычна ажыццяўляць выхаванне вучняў. Выхаваўчую работу патрэбна звязваць з сацыяльна-эканамічнымі, палітычнымі і духоўнымі праблемамі нашага грамадства.

У заключэнне зноў хачу зазначыць, што артыстычнасць педагога — паказчык яго культуры.

Некаторыя педагогі вышэйшай і сярэдняй школ відавочна пагарджаюць мастацкім словам. Мы, маўляў, не можам марнаваць час, мы займаемся "справай"... Гэтыя сцвярджэнні нярэдка суправаджаюцца ўхмылкамі, а тым часам страчваецца галоўнае — хараство вершаванай мовы. Яе замяняе рацыянальны "тэкст".

Ні ў якім разе нельга дапусціць, каб у новым тысячагоддзі ў школе знікла паэзія і запанаваў голы рацыяналізм.

**Міхаіл РАЖКОЎ,**
**ветэран вайны і працы,**
**кандыдат філасофскіх навук,**
**дацэнт.**

Ідуць уступныя экзамены.

Фота Ю.БОНДАРАВА.

Нефармальная адукацыя

## Як становяцца лідэрамі

***Сучаснае грамадства ўявіць без лідэраў немагчыма. Іншае пытанне, якія гэта лідэры. Любой цывілізаванай краіне патрабуюцца адукаваныя, валявыя, моцныя характарам, гатовыя браць на сябе адказнасць людзі. Не кожнаму дадзены такія якасці, але кожны, пры жаданні і магчымасцях, можа набыць іх.***

Беларускі саюз моладзі распрацаваў праграму, накіраваную на выяўленне, падрыхтоўку і развіццё лідэрскага патэнцыялу маладога пакалення Рэспублікі Беларусь, якая ўключае тры блокі: "Я малады" (для школьнікаў), "Стыль" (для студэнтаў) і "Кадры" (для тых, хто хоча і можа стаць кіраўніком). Агульнай мэтай лідэрскай праграмы з'яўляецца фарміраванне рэзерву кадраў, прафесійна падрыхтаваных для работы ў структуры кіравання дзяржаўных, камерцыйных і грамадскіх арганізацый. Праграма "Лідэр" — спалучэнне розных вучэбных методык, элементаў псіхалагічнага трэнінгу, гульняў, тэстаў, практычных заняткаў, семінараў, дыскусій у групах.

Праграма "Я малады" рэалізуецца з 1995 года. Як паведаміла Вольга Гілько (інструктар аддзела па рабоце са школьнай моладдзю), усё пачынаецца з таго, што кожны зацікаўлены школьнік можа наведаць агульны семінар, дзе з дапамогай тэсту выяўляюцца патэнцыяльныя лідэрскія якасці: камунікабельнасць, самастойнасць, упэўненасць у сваіх магчымасцях, пачуццё адказнасці, гнуткае мысленне, дысцыплінаванасць у адносінах да сябе, мэтанакіраванасць і г.д. Па выніках тэсту тыя, хто мае лідэрскія здольнасці, могуць прыняць удзел у раённых і абласных навучальных семінарах.

Навучанне праводзяць спецыяльныя трэнеры. Гэта — людзі, якія самі засвоілі праграму "Лідэр" і да таго ж маюць вопыт працы з моладдзю. Семінары арганізуюцца і для трэнераў, дзе яны набываюць веды і практычныя навыкі па методыцы правядзення тэстаў, трэнінгаў, гульняў. У сваёй дзейнасці трэнеры выкарыстоўваюць розныя формы і методыкі. Заняткі праводзяцца ў малых групах, што робіць іх больш эфектыўнымі. Яны ўяўляюць сабой дыскусіі на шматлікія тэмы, у працэсе якіх выпрацоўваюцца навыкі кіраўніцтва малым калектывам, тэхніка вядзення размовы, уменне лагічна выкласці свой пункт погляду, а таксама дасягнуць згоды, знайсці рашэнне ў вельмі хуткі час. Праводзяцца творчае навучанне і псіхалагічныя гульні з мэтай павышэння кантактнасці, здольнасці да вырашэння канфліктаў і разумення непазбежнасці сумеснага прыняцця рашэнняў, разумення істотнасці і важнасці ролі лідэра спачатку ў групе, потым — у грамадстве. У рамках праграмы выкарыстоўваюцца псіхадыягнастычныя методыкі, элементы псіхатрэнінгу, ролевыя гульні.

Акрамя падобных семінараў і трэнінгаў заняткі са школьнікамі праводзяцца ў летніках, дзе спецыяльна арганізуюцца менавіта лідэрскія змены. Кожны год такая змена ладзіцца ў летніку "Зубраня". Сёлета ў ёй прымала ўдзел сто шэсцьдзесят дзесяцікласнікаў, якія былі адабраны па выніках тэстаў, семінараў, трэнінгаў, праведзеных на рэгіянальным узроўні. У летнік трапілі школьнікі з ужо вызначанымі лідэрскімі якасцямі. Задачай трэнераў было выявіць асабістыя памкненні і інтарэсы кожнага, а потым — весці працу па выхаванні лідэра ў акрэсленым накірунку. Экалогія, культура і палітыка — самыя папулярныя і праблемныя сферы дзейнасці грамадства, а адна з задач лідэра — вырашаць праблемы.

Пасля такой змены ў летніку "Зубраня" старшакласнікі атрымліваюць веды пра функцыянаванне грамадскіх, дзяржаўных структур, як можна з імі супрацоўнічаць. Яму дапамагаюць псіхалагічна адаптавацца ў грамадстве, паверыць у сябе.

Сваімі ўражаннямі падзяліўся былы ўдзельнік школьнага блока лідэрскай праграмы Беларускага саюза моладзі Аляксандр Астапук:

— Я пачаў удзельнічаць у праграме "Лідэр", калі быў школьнікам. У рамках дадзенай праграмы ў школе праводзіліся семінары. Шчыра кажучы, гэта не вельмі мяне зацікавіла, але абставіны склаліся так, што я ўсё ж трапіў на адзін з семінараў. На ім убачыў: ёсць чаму вучыцца, ёсць цікавыя хлопцы і дзяўчаты, ёсць з кім і пра што пагаварыць. Пасля некалькіх мерапрыемстваў у маім горадзе (г.Драгічын, што на Брэстчыне), потым у раёне была змена ў летніку "Зубраня". Там першае — гэта праца ў групах, праца з іншымі людзьмі, бо група збіраецца спантанна, і вельмі цяжка адразу рабіць нешта разам. Праводзілася шмат мерапрыемстваў у рамках чатырох блокаў: праграма "Лідэр" (гульня "Прэзідэнт"), праграма "Інтэлект" (гульні "Што? Дзе? Калі?", "Брэйн-рынг"), праграма "Творчасць" (разнастайныя конкурсы, КВЗ), спартыўная праграма. Пасля змены ў летніку "Зубраня" быў адбор у валанцёрскія летнікі, якія размешчаны ў кожнай вобласці нашай краіны.

Асабіста мне вучоба па лідэрскай праграме дала ўпэўненасць у сабе, паспрыяла ў набыцці вопыту па камунікацыі, рыторыцы, што абавязкова спатрэбіцца ў жыцці.

Праграма "Лідэр" — адзін з праектаў нефармальнай адукацыі, якая вельмі распаўсюджана ў краінах Еўропы. Імі займаюцца грамадскія арганізацыі. На Беларусі гэта — Беларускі саюз моладзі, маладзёжны адукацыйны цэнтр "Фіальта", адукацыйны цэнтр "ПОСТ", гродзенскае аб'яднанне маладых вучоных "ВІТ". Нефармальная адукацыя прадугледжвае навучанне па наступных праграмах: "Лідэр", "Эфектыўныя камунікацыі", "Канфліктaлогія", "Эфектыўны менеджмент".

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

Семінары

## У госці да мінчан — масквічы і кіяўляне

***У сістэме прафесійна-тэхнічнай адукацыі сталіцы адбылася знамянальная падзея. На базе мінскага ПТВ № 38 перапрацоўчай прамысловасці адбыўся міжнародны семінар па тэме "Удасканаленне сумеснай дзейнасці калектыву вучылішча з сацыяльнымі партнёрамі па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы рабочых кадраў".***

Трэба прызнаць заслугу мінскай установы ў развіцці шчыльнага супрацоўніцтва з аднагаліновымі ПТНУ іншых краін. Яно працягваецца ўжо дзесяць гадоў. Як і папярэдне, у госці да сваіх калег у гэты дзень прыехалі прадстаўнікі ліцэя № 340 Масквы і ПТВ № 15 Кіева.

Як зазначыў у сваім каментары да гэтай падзеі дырэктар ПТВ № 38 Васіль Мачуйскі, мэтай семінара стала арганізацыя ўзаемадзеяння яго ўдзельнікаў па вырашэнні праблемы сацыяльнага партнёрства і яго ролі ў павышэнні якасці прафесійнай падрыхтоўкі рабочых кадраў для перапрацоўчай вытворчасці.

Як вядома, сацыяльнае партнёрства ў айчыннай сістэме прафтэхадукацыі мае трывалую базу. Прадпрыемствы адпаведнай галіны падтрымліваюць шчыльныя адносіны з навучальнымі ўстановамі ПТА і працуюць з імі на дагаворнай аснове. Гэтая акалічнасць вызначае гарантыі ў правядзенні вытворчай практыкі навучэнцаў і працаўладкаванні выпускнікоў. Такое супрацоўніцтва падмацоўваецца і фінансавай падтрымкай з боку вытворцаў. З дапамогай прадпрыемстваў вучылішча набывае новае абсталяванне, наглядныя дапаможнікі, праводзіць рамонт сваіх будынкаў, утрымлівае лабараторыі і вучэбныя кабінеты.

ПТВ № 38 паспяхова кантактуе з Мінскім мясакамбінатам, мясаперапрацоўчым заводам, а таксама са Слонімскім і Брэсцкім мясакамбінатамі. Пастаяннае вывучэнне попыту на рынку працы дае магчымасць рыхтаваць спецыялістаў перапрацоўчай прамысловасці з улікам патрабаванняў работадаўцаў.

У адрозненне ад устаноў ПТА Беларусі дзейнасць ПТНУ Украіны і Расіі засноўваецца на гаспадарчым разліку і не мае развітай базы з сацыяльнымі партнёрамі. Іх работа скіравана пераважна на прыватны сектар.

Характэрна і тое, што навучальныя ўстановы гэтых краін праводзяць навучанне на платнай аснове.

Гэтыя тыповыя акалічнасці ўсё ж не могуць раз'яднаць сістэму ПТА Беларусі з Украінай і Расіяй. Па-ранейшаму іх звязвае адна галоўная мэта прафесійна-тэхнічнай адукацыі — пошук аптымальных шляхоў павышэння якасці прафесійнай падрыхтоўкі кадраў. Як падрыхтаваць канкурэнтаздольнага спецыяліста? Гэтае пытанне было ў цэнтры ўвагі ўдзельнікаў семінара. Калегі з іншых краін далі магчымасць мінчанам азнаёміцца з вучэбна-метадычнай дакументацыяй іх устаноў. Былі прадстаўлены вучэбныя планы і праграмы, якія адлюстроўвалі змест прафесійнага навучання спецыялістаў перапрацоўчай прамысловасці.

Вынікам семінара стала заключэнне пагаднення аб сталым супрацоўніцтве, якое прадугледжвае далейшы абмен вопытам. Наступны міжнародны семінар з удзелам мінскага ПТВ № 38 адбудзецца ў Кіеве на пачатку новага навучальнага года.

**Ала КЛЮЙКО.**

Лета-2001

## Магічная сіла вайсковага строю

***Міхаіл Мацаль, дырэктар сярэдняй школы № 4 Нясвіжа, — ініцыятар стварэння пры навучальнай установе на час канікул летніка ваенна-патрыятычнага выхавання.***

Прыклад мінулых гадоў засведчыў, што летнік карыстаецца папулярнасцю як сярод вучняў Нясвіжчыны, так і суседніх раёнаў.

Як паведаміў Міхаіл Міхайлавіч, штодзень утульны і прасторны школьны двор збірае амаль дзвесце юнакоў. Магічная сіла вайсковага строю — вялікая. Акрамя знаёмства з ваеннай справай хлопцы маюць час на заняткі спортам, актыўны адпачынак.

Міхаіл Міхайлавіч як кіраўнік установы дадаў, што будучыя воіны маюць дачыненне і да падрыхтоўкі памяшканняў школы да новага навучальнага года, і працуюць на прышкольным агародзе.

**Наш кар.**

Б'ём трывогу!

## Зноў пра зарплату

***І без таго невялікая настаўніцкая зарплата выплачваецца ў нашым горадзе несвоечасова: тэрміны выплаты пастаянна мяняюцца, адсоўваюцца на канец наступнага месяца. Але нягледзячы на гэта мы не перастаём творча падыходзіць да сваёй працы: удзельнічаем у конкурсах, даём адкрытыя ўрокі, рыхтуем здольных дзяцей да алімпіяд, ходзім у паходы, ездзім на экскурсіі, трацячы свой асабісты час.***

Сям'я настаўніка — асаблівая сям'я. Ёй даводзіцца адчуваць на сабе характар чалавека самаадданага, які ў першую чаргу думае пра чужых дзяцей, а потым пра сваіх. Спытайце, калі нашы дзеці апошні раз елі апельсіны ці бананы... Сёння яны рады кавалку хлеба. Калектыў у нас пераважна жаночы, а разлічваць на мужоў амаль не даводзіцца. Таму затрымка зарплаты нават на тры дні адчувальная для нашых сем'яў. Але чаму на пытанне пра зарплату ў Асіповіцкім выканкаме нам адказваюць, што грошай няма? Чаму ўсе чыноўнікі пераадрасоўваюць наша пытанне адзін аднаму?

Абурае тое, што ў першай палове гэтага навучальнага года напярэдадні і ў час дзяржаўнай праверкі нам выплачвалі і аванс, і зарплату дзень у дзень. Як толькі праверка закончылася, ужо ў снежні давялося "ваяваць" за аванс, каб на Новы год не сядзець без хлеба. А далей — горш. З сакавіка мы не атрымліваем аванс, а зарплата выплачваецца на месяц пазней, хаця па дакументах райвыканкама мы атрымліваем усё ў вызначаны тэрмін. Як нам быць? У нас няма магчымасці спланаваць адпачынак, бо мы сядзім без грошай. Надзеі ж атрымаць іх у бліжэйшы час — няма. Няўжо людзі, без якіх не было б ні банкіра, ні сталяра, ні новага беларуса, ні таго ж чыноўніка, не варты лепшых, больш паважлівых адносін да сябе?

**Калектыў настаўнікаў**
**сярэдняй школы № 1**
**Асіповічаў Магілёўскай**
**вобласці (35 подпісаў).**

Газета выступіла. Што зроблена?

## Святло ў канцы тунэля?

**На матэрыял "Тунэль без надзеі на святло?", змешчаны ў "НГ" № 68 за 19.06.2001, прыйшоў адказ.**

З чэрвеня гэтага года праводзяцца рамонтныя работы ў інтэрнаце № 2 чэрвеньскага ПТВ № 80. На другім паверсе зроблены рамонт электраправодкі, заменена 16 дзвярных блокаў, адрамантаваны ўбудаваныя шафы, выраблена 16 пакаёвых сталоў, 14 тумбачак, 15 табурэтаў, заменена 192 п.м падлогавага плінтуса, пабелена 350 кв.м столі. Ужо адрамантаваны 22 пакоі інтэрната. Увесь рамонт плануецца завяршыць да 25 жніўня гэтага года.

Намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце А.Б.Лазарэвіч і дырэктар В.І.Субоцін, ПТВ № 80, вызвалены ад займаемых пасад.

Упраўленне адукацыі Мінскага аблвыканкама ўзяло на кантроль работу вучылішча. З 25 па 29 жніўня падчас абласнога рэйду праверкі гатоўнасці ПТНУ да новага навучальнага года будзе дадаткова вывучана зробленая работа па рамонце інтэрната.

Цяпер упраўленне адукацыі займаецца падборам кіруючых кадраў для чэрвеньскага ПТВ № 80.

**Георгій НІКАНОВІЧ,**
**начальнік упраўлення адукацыі**
**Мінскага аблвыканкама.**

Прафтэхадукацыя: дзень сённяшні

## Курс — на новыя тэхналогіі

***Задача па ўкараненні новых адукацыйных і педагагічных тэхналогій у вучэбна-выхаваўчы працэс — адна з галоўных у дзейнасці ўпраўлення адукацыі, метадычных службаў і педагагічных калектываў прафтэхадукацыі горада. Зыходным пунктам у яе вырашэнні сталі і гарадскія педагагічныя чытанні, якія нядаўна праводзіліся ў Мінску. На іх быў абагульнены першапачатковы вопыт кіраўнічых органаў і педагагічных калектываў прафтэхадукацыі горада па ўкараненні інавацыйных тэхналогій.***

У некаторых навучальных установах актыўна выкарыстоўваецца тэхналогія модульнага навучання. Гэтая тэхналогія прадастаўляе шырокія магчымасці для развіцця навучэнца як суб'екта вучэбнага працэсу за кошт планамернай, арганізаванай педагогам яго дзейнасці па самаадукацыі і саманавучанні. Да ліку аўтараў гэтай тэхналогіі трэба аднесці выкладчыка ВПВ бытавога абслугоўвання насельніцтва Людмілу Панасюк, якая прадставіла модульную праграму на ўрок па тэме "Выкарыстанне камп'ютэрных сістэм у рабоце канструктара-мадэльера". Распрацаваны модуль дазваляе дасягнуць гнуткасці навучання, прыстасаваць змест да індывідуальных магчымасцей навучэнца, забяспечыць самастойную яго работу з індывідуальнай праграмай (модулем).

Прыцягвае ўвагу работа выкладчыка, намесніка дырэктара ПТВ № 12 Андрэя Гота. Аўтарам прапанавана такая структура лабараторнага практыкуму, якая дазваляе развіваць пазнавальную актыўнасць і творчую самастойнасць навучэнца. Улічваюцца яго індывідуальныя псіхалагічныя асаблівасці і ўзровень базавай падрыхтоўкі. Прадстаўленая тэхналогія правядзення заняткаў дапамагае педагогу, які працуе з групай навучэнцаў, дзе ёсць цяжкасці пры выкананні заданняў, не перапыняць работу тых, хто спраўляецца самастойна і мае магчымасць выканаць работу павышанай цяжкасці. Тут рэалізавана схема: вучань — падручнік — настаўнік, якая дазваляе выкладчыку выступаць у якасці кансультанта, памочніка ў самастойным пошуку ведаў навучэнцамі.

Цяпер актыўна абмяркоўваецца пытанне аб наяўнасці практычнага псіхолага ў сістэме адукацыі. Калектывы чакаюць ад псіхолагаў рэальнай дапамогі. Таму вельмі актуальны сёння ўдзел у падрыхтоўцы да педагагічных чытанняў менавіта і гэтай катэгорыі педагогаў.

Неабходна адзначыць работу псіхолага Ірыны Пяцюшык з ПТВ-94 машынабудавання па тэме "Тэхналогія стварэння спрыяльнага клімату ў педагагічным калектыве". У дакладзе разгледжаны фактары, якія ўплываюць на стварэнне псіхалагічнага клімату ў ПТНУ. Акцэнтавана ўвага на ролі кіраўніцтва вучылішча, і ў прыватнасці раскрыты патрабаванні, якія прад'яўляе калектыў да асабістых якасцей дырэктара. Падрабязна асветлены праблемы ўзаемаадносін паміж дырэктарам і яго намеснікамі. Апісаны шляхі матывацыі дзейнасці педагогаў.

**Аўтары дакладаў падкрэсліваюць перавагі выкарыстання тэставых заданняў не толькі пры бягучым кантролі, на заліках, але і на экзаменах, у тым ліку і на выпускным кваліфікацыйным.**

Засяродзіў увагу ўдзельнікаў і даклад "Калектыўныя формы вучэбнай дзейнасці" выкладчыка рускай мовы і літаратуры ПТВ № 71 Валянціны Сярпінскай. Матэрыял раскрывае магчымасці калектыўных форм вучэбнай дзейнасці і асабліва такіх, як псіхакарэкцыйны эфект, які ўплывае на самавыхаванне асобы, карэкцыю яе якасцей і форм узаемадзеяння з навакольным светам. Важнейшы вынік калектыўнай дзейнасці — фарміраванне станоўчай матывацыі.

Актуальнай праблемай прафесійна-тэхнічнай адукацыі з'яўляецца пошук найбольш аптымальных тэхналогій кантролю і ацэньвання прафесійных ведаў ды ўменняў навучэнцаў, узроўню іх кваліфікацыі. Зыходзячы з прадстаўленых матэрыялаў адной з найбольш эфектыўных, часта прымяняльных форм кантролю з'яўляецца тэсціраванне.

Аўтары дакладаў падкрэсліваюць перавагі выкарыстання тэставых заданняў не толькі пры бягучым кантролі, на заліках, але і на экзаменах, у тым ліку і на выпускным кваліфікацыйным — як з псіхалагічнага пункту гледжання (змяншэнне эмацыянальнага стрэсу), так і з пункту гледжання больш аб'ектыўнага, шматбаковага спосабу ацэньвання прафесійнай падрыхтаванасці навучэнцаў. Ён як паказвае практыка, дазваляе аптымізаваць працэс навучання, павысіць адказнасць у авалоданні прафесійнымі ведамі.

У дакладзе "Тэхналогія педагагічных майстэрняў" выкладчыцай рускай мовы і літаратуры Раісай Краснікевіч з ПТВ № 114 разглядаюцца дыдактычныя і метадычныя прынцыпы тэхналогіі педагагічных майстэрняў. Гэтая тэхналогія вучыць уменню чытаць мастацкія творы, адкрываць для сябе рознабаковы свет чалавечых адносін, удумвацца ў прачытанае, бачыць глыбінны сэнс твора.

Характэрна, што ў большасці дакладаў быў акрэслены інавацыйны падыход у ажыццяўленні ў ПТНУ навучальна-выхаваўчага працэсу. Гэта радуе. Але ж хочацца адзначыць, што на педагагічныя чытанні практычна не прадстаўлены работы па адаптацыі ў вучэбна-выхаваўчым працэсе новага пакалення вучэбна-праграмнай дакументацыі. У рэспубліцы вядзецца актыўная работа па распрацоўцы гэтых дакументаў, і многія з работнікаў гарадскіх ПТНУ ўдзельнічаюць у творчых калектывах. Пачынаючы з гэтага года, некаторыя камплекты тыпавой дакументацыі будуць укаранёны ў практыку, а затым — распрацоўка вучэбных планаў і праграм, дыдактычных сродкаў і метадычных рэкамендацый новых педагагічных тэхналогій, мабілізацыя ўсіх удзельнікаў педагагічнага працэсу на вырашэнне задач прафесійнай адукацыі, пачынаючы ад урока, тэмы, прадмета і заканчваючы рэалізацыяй патрабаванняў прафесійна-кваліфікацыйнай характарыстыкі. Гэтая работа — вельмі працаёмкая і няпростая.

Нягледзячы на тое, што ўзровень актыўнасці педкалектываў і маштабнасць работы над праблемай педтэхналогій, узровень разумення кіраўніцтвам навучальных устаноў значэння гэтай работы для павышэння якасці адукацыі ў навучальных установах не аднолькавыя, важна, што яна пачата. І хочацца верыць — атрымае сваё далейшае развіццё. Пра гэта сведчыць той факт, што ў наступным навучальным годзе ўпраўленне адукацыі Мінгарвыканкама сумесна з гарадскім вучэбна-метадычным цэнтрам прафесійнай адукацыі плануюць правесці 2-я педагагічныя чытанні для майстроў вытворчага навучання па тэме "Сучасны ўрок вытворчага навучання".

**Тамара МАРШЧАКІНА,**
**дырэктар Мінскага гарадскога**
**вучэбна-метадычнага цэнтра**
**прафесійнай адукацыі.**

